РАЁННАЯ ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

# ГОЛАС КАСЦЮКОЎШЧЫНЫ

№ 52 (7865) Заснавана ў красавіку 1931 года СУБОТА, 8 ліпеня 2000 г. Цана 25 руб.



*На святочным мітынгу выступае з прамовай старшыня райвыканкама М. Р. БАРЫСАЎ.*

# САМАЕ ВАЖНАЕ СВЯТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

У нашым раёне прайшлі ўрачыстасці, прысвечаныя Дню Незалежнасці Рэспублікі Беларусь і 56-ай гадавіне вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Шырока адзначалася самае вялікае свята ў Касцюковічах. На цэнтральную плошчу горада 3 ліпеня прыйшлі многія яго жыхары, госці. Былі ўскладзены кветкі да помніка У. І. Леніну.

Затым святочная калона пад музыку аркестра накіравалася да Мемарыялу загінуўшым у час Вялікай Айчыннай вайны. Ад імя раённых органаў улады кветкі да помніка салдату-вызваліцелю, дзе палымнеў Вечны агонь, усклалі старшыня раённага выканаўчага камітэта Міхаіл Барысаў і старшыня раённага Савета дэпутатаў Мікалай Трубчык. Кошыкі з кветкамі, букеты жывых кветак усклалі прадстаўнікі ветэранскай, маладзёжных арганізацый, працоўных калектываў прадпрыемстваў, праваахоўных органаў, грамадскасці.

Калі завяршылася гэта цырымонія, пачаўся святочны мітынг. Яго адкрыў старшыня райсавета дэпутатаў М. С. Трубчык. Выканаunion Дзяржаўны гімн.

З дакладам на мітынгу выступіў старшыня райвыканкама М. Р. Барысаў. Па волі большасці беларускага народа, сказаў ён, з 1997 года Дзень Незалежнасці Рэспублікі Беларусь стаў адзначацца 3 ліпеня. Менавіта 3 ліпеня 1944 года Беларусь была вызвалена ў выніку наступальнай аперацыі Чырвонай Арміі і аднаўлена гістарычная справядлівасць.

Доўгім і цяжкім быў шлях беларусаў да незалежнасці. У іх памяці засталіся спусташальныя набегі татар, заваёўніцкія паходы нямецкіх крыжаносцаў, шведскіх, польскіх і французскіх войск. Аднак наш народ выстаяў, не скарыўся, здолеў абараніць родную зямлю ад шматлікіх ворагаў.

Пачатак XX стагоддзя стаў новым важным этапам у развіцці беларускай дзяржаўнасці. У 1919 годзе на сусветнай арэне з'явілася новая дзяржава – Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка, якая мела свае дзяржаўныя сімвалы, дзейнічаючы апарат улады, сістэму адукацыі, навукі і культуры.

У 1922 годзе Беларусь адной з першых рэспублік падтрымала ідэю стварэння СССР і адразу ўвайшла ў яго склад. У савецкі час Беларусь з адсталай ускраіны Расійскай імперыі ператварылася ў магутную індустрыяльна-аграрную рэспубліку. З дапамогай народаў СССР беларусы змаглі выстаяць у цяжкія ваенныя гады, аднавіць разбураную вайной эканоміку, праводзіць навуковыя даследаванні, прымаць удзел у рабоце міжнародных арганізацый, ажыццяўляць палёты ў космас.

Сур'ёзным выпрабаваннем для ўсіх народаў Савецкага Саюза стаў распад СССР. Сучаснікі назвалі гэту падзею буйнейшай геапалітычнай катастрофай стагоддзя. Была разбурана сістэма гаспадарчых, эканамічных сувязяў, якая ўстойліва працавала дзесяцігоддзямі. Пачалася актыўная крыміналізацыя грамадскага і палітычнага жыцця. Для дзесяткаў мільёнаў людзей распад Саюза стаў цяжкай трагедыяй – стратай адзінай Радзімы, прывёў да рэзкага зніжэння жыццёвага ўзроўню, няўпэўненасці ў заўтрашнім дні.

У 1991 годзе Беларусь аб'явіла аб сваім дзяржаўным суверэнітэце і ўступіла ў новы перыяд свайго развіцця. Выбары Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь у 1994 годзе і стварэнне моцнай выканаўчай улады, рэферэндумы 1995 і 1996 гадоў, якія паказалі падтрымку большасцю насельніцтва дзейнасці кіраўніцтва рэспублікі, распрацоўка заканадаўчай базы, аб'яднаўчы працэс Беларусі і Расіі – гэтыя і іншыя падзеі сведчаць аб тым, што ў краіне склалася стабільная палітычная сітуацыя.

Сучасная Беларусь – гэта незалежная дэмакратычная еўрапейская дзяржава, якая мае эканамічныя і дыпламатычныя адносіны больш чым з ста дваццаццю краінамі свету. У аснове гэтых адносін – узаемная павага да суверэнітэту кожнай краіны.

Свята Незалежнасці дарагое нам удвая таму, што яно супадае з Днём вызвалення Беларусі ад гітлераўскіх акупантаў. 22 чэрвеня 1941 года пачаўся самы трагічны і адначасова самы перамožны перыяд нашай гісторыі. Наш народ не ведаў вайны больш кровапралітнай і жорсткай, чым Вялікая Айчынная вайна. Незвычайных ахвяр патрабавала перамога над ворагам. Два мільёны дзвесце тысяч беларусаў (амаль кожны трэці жыхар рэспублікі) загінулі ў гады вайны. Чатырыста тысяч чалавек было ўгнана ў рабства ў Германію. Звыш дзесяці тысяч населеных пунктаў разбурана і спалена акупантамі.

За гады вайны Беларусь страціла палавіну свайго нацыянальнага багацця. Тры мільёны чалавек засталіся без даху над галавой. Вайна пакінула нам сотні тысяч брацкіх магілак, пакалечаныя чалавечыя лёсы, слёзы маці і ўдоў, пажарышчы на месцы разбураных гарадоў і вёсак.

На працягу трох гадоў знаходзіліся фашысцкія акупанты на шматпакутнай беларускай зямлі. Аднак наш народ не скарыўся ворагу. З першых дзён акупацыі былі створаны падпольныя арганізацыі і партызанскія атрады. На тэрыторыі Беларусі дзейнічалі больш 140 партызанскіх брыгад, дзесяткі атрадаў, у якіх налічвалася звыш 400 тысяч байцоў. За гады гераічнай барацьбы ў тыле ворага народнымі мсціўцамі знішчана больш 500 генералаў і вышэйшых афіцэрскіх чыноў, пушчана пад адхон 11 тысяч эшалонаў. За баявыя заслугі і подзвігі больш як 200 тысяч беларускіх партызан атрымалі ордэны і медалі, 74 народных мсціўцы ўдастоены звання Героя Савецкага Саюза.

Вызваленне тэрыторыі нашай рэспублікі расцягнулася на доўгія два гады. 23-24 чэрвеня 1944 года савецкія войскі пачалі беларускую наступальную аперацыю пад кодавай назвай "Баграціён". 3 ліпеня 1944 года была вызвалена беларуская сталіца – горад Мінск, а 28 ліпеня стаў свабодным апошні абласны цэнтр рэспублікі – горад Брэст.

Радзіма высока ацаніла масавы гераізм сваіх салдат. У баях за вызваленне Беларусі больш 1600 генералаў, афіцэраў і салдат атрымалі званне Героя Савецкага Саюза. 746 воінскіх часцей і злучэнняў, якія вызначыліся ў беларускай аперацыі, атрымалі ганаровыя званні вызваленых імі гарадоў.

Сёння, у дзень 56-й гадавіны вызвалення рэспублікі, у Дзень Незалежнасці мы славім бессмяротны подзвіг франтавікоў, усіх салдат Вялікай Айчыннай. Мы заўсёды будзем памятаць мужнасць і адвагу партызан і патрыётаў-падпольшчыкаў, якія ўнеслі неацэнны ўклад ва ўсенародную перамогу над ворагам. Мы глыбока ўдзячны за неймаверна цяжкую працу тысячам беларусаў, якія бяссоннымі начамі, на мяжы сіл і магчымасцей, пастаўлялі зброю для фронту. Словы ўдзячнасці і пажаданні добрага здароўя, даўгалецця і дабрабыту мы накіроўваем усім ветэранам Вялікай Айчыннай вайны нашага раёна, як франтавікам, так і працаўнікам тылу, якія сумесна кавалі перамогу над ворагам. Мы схіляем галовы перад светлай памяццю мільёнаў нашых грамадзян, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны, былі замучаны ў фашысцкіх засценках і канцлагерах. Мы не маем права забываць тых, хто аддаў свае жыцці, абараняючы гонар і незалежнасць сваёй Радзімы.

Звяртаючыся да ветэранаў, М. Р. Барысаў адзначыў, што іх бяспрыкладная мужнасць пазбавіла ад бязлітаснага знішчэння наш народ і народы цывілізаванага свету. Іх подзвіг і самаахвяраванне ў цяжкія і пераломныя для Беларусі гады ніколі не будуць забыты. Клопат аб ветэранах, франтавіках быў і застаецца прыярытэтным напрамкам сацыяльнай палітыкі нашай дзяржавы, дзейнасці мясцовых органаў улады.

Справядліва кажуць, што "моцная краіна – моцная эканоміка". У апошнія гады эканамічнае развіццё нашай рэспублікі набыло ўстойлівую станоўчую дынаміку, стала пастаянным і незваротным. З жніўня 1999 года ў Беларусі адбываецца штомесячнае нарошчванне прамысловай вытворчасці. У першым квартале 2000 года аб'ём прамысловай прадукцыі склаў 108 працэнтаў у параўнанні з адпаведным перыядам мінулага года. У прамысловым комплексе рэспублікі выкананы мэтавы паказчык па росту прадукцыйнасці працы. Ён склаў 107 працэнтаў да намечанага. Больш чым на 30 працэнтаў узрос у 2000 годзе аб'ём знешняга гандлю ў Беларусі, якая ажыццяўляла эканамічныя аперацыі з гандлёвымі партнёрамі з 139 краін свету. Пры гэтым на дзяржавы СНД прыходзіцца больш 60 працэнтаў таваразвароту, на краіны дальняга замежжа – каля 40 працэнтаў.

Прыкметна палепшылася работа галін сацыяльна-культурнай

*(Працяг на 2 стар.)*



*Вянкі да падножжа помніка воіну-вызваліцелю ўсклалі старшыня райвыканкама М. Р. БАРЫСАЎ і старшыня раённага Савета дэпутатаў М. С. ТРУБЧЫК.*



*Святочнае шэсце ветэранаў па вул. Ленінскай.*

# Самае важнае свята Рэспублікі Беларусь

(Заканчэнне. Пачатак на 1 стар.)

сферы. Устойліва функцыяніравала сістэма адукацыі. Колькасць дзяцей, якія наведваюць дашкольныя ўстановы, перавысіла 70 працэнтаў, а сярод дзяцей пяцігадовага ўзросту – 81 працэнт. Бацькоўская плата ў адносінах да сярэдняй зарплаты засталася пры гэтым на ўзроўні 90-х гадоў і была значна ніжэйшай, чым у краінах СНД і Усходняй Еўропы.

Свой пасільны ўклад у развіццё эканомікі Рэспублікі Беларусь уносяць і працоўныя калектывы Касцюковіцкага раёна. Працаўнікамі Касцюкоўшчыны выканана вялікая работа па ажыццяўленню прагнозных паказчыкаў на 2000 год. На 5 з 8 прамысловых прадпрыемстваў раёна атрыманы прырост вытворчасці прадукцыі. Працаўнікі сяла першымі ў вобласці завяршылі пасяўную кампанію. У аптымальныя агратэхнічныя тэрміны правялі яравую сяўбу калгасы "Парыжская камуна", "Дуброва", "Прагрэс". Добрых вынікаў дабіліся на пасяўной іншыя гаспадаркі.

Вялікую дапамогу працаўнікам сяла ў правядзенні пасяўной кампаніі аказалі гарадскія прадпрыемствы і арганізацыі. Шэфы ўдзельнічаюць у нарыхтоўцы кармоў і падрыхтоўцы да ўборкі ўраджаю збожжавых культур. Дзякуючы зладжанай рабоце горада і сяла ўдаецца атрымаць нядрэнныя вынікі.

За студзень-красавік 2000 года ў раёне здана ў эксплуатацыю 1539 квадратных метраў індывідуальнага жылля (12 кватэр), у тым ліку ў сельскай мясцовасці – 413 квадратных метраў (6 кватэр). Больш чым на 5 працэнтаў у раёне павялічыўся аб'ём платных паслуг насельніцтву. Звыш 90 працэнтаў яго забяспечылі прадпрыемствы дзяржаўнай формы ўласнасці.

Прыкметай сілы любой дзяржавы, працягваў М. Р. Барысаў, з'яўляецца стан яе знешняй палітыкі. Знаходзячыся на перасячэнні еўрапейскіх дарог, экспартуючы больш палавіны вытвараемай прадукцыі, наша краіна паспяхова праводзіць шматвектарную знешнюю палітыку. За апошнія гады ўдалося стварыць Саюз Беларусі і Расіі – самую аптымальную і жыццездольную мадэль інтэграцыі на пастсавецкай прасторы. Стварэнне Саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі адпавядае рэаліям сучаснай эпохі і стварае перадумовы для далейшага больш цеснага аб'яднальнага працэсу ў рамках СНД. Наша рэспубліка мае добрыя адносіны з Кітаем, Індыяй, Турцыяй, краінамі арабскага свету. Дзякуючы свайму інтэлектуальнаму і культурнаму патэнцыялу Беларусі пад сілу быць паўнапраўным членам сусветнай супольнасці.

Нельга не сказаць у гэты святочны дзень аб такой якасці нашага народа, як патрыятызм, пра любоў да сваёй Радзімы, аб жаданні абараніць і праславіць тую зямлю, дзе вырас і жывеш. Патрыятызм аб'ядноўваў наш народ і ў гады Вялікай Айчыннай вайны, і ў мірны час. Гэта аснова нашай сілы ў пераадоленні любых цяжкасцей і выпрабаванняў.

Дзень Рэспублікі – гэта самае важнае свята нашай краіны, яе своеасаблівы дзень нараджэння. Ад імя раённага выканаўчага камітэта, раённага Савета дэпутатаў М. Р. Барысаў пажадаў усім жыхарам раёна міру, здароўя, спакойных рабочых будняў і вясёлых свят, згоды ў кожным доме. Няхай гэта свята стане радасным і светлым днём, прыемнай традыцыяй для кожнага з нас.

На святочным мітынгу выступілі: ад імя ветэранаў Вялікай Айчыннай вайны – Іван Сцяпанавіч Грэбянькоў, моладзі – урач-тэрапеўт Лаліта Алегаўна Анцыповіч. У іх выступленнях прагучала гордасць за мужнасць і гераізм байцоў і камандзіраў Чырвонай Арміі, якія вызвалялі Беларусь. Было аддадзена належнае маладому пакаленню за яго патрыятызм, паслядоўнасць у справе памнажэння слаўных традыцый старэйшых пакаленняў.

Мітынг аб'яўляецца закрытым. Прагучала мелодыя Гімна.

На гэтым ўрачыстая частка святочных мерапрыемстваў закончылася.

Гараджан чакала мноства цікавых спраў. Працавалі гандлёвыя палаткі гарадскога рознічна-гандлёвага прадпрыемства, а таксама "Цэментгандлю". Тут жадаючыя маглі набыць прадукты харчавання, салодкасці, напіткі. А каля імправізаванай сцэны, што была змайстравана каля помніка загінуўшым у гады Вялікай Айчыннай вайны воінам, сабраліся аматары патрыятычнай песні і не толькі. Добрую канцэртную праграму для іх падрыхтавалі работнікі раённага Цэнтра культуры. Адкрыў яе хор ветэранаў пад кіраўніцтвам Л. Я. Гіркінай. З асобнымі музычнымі нумарамі выступілі ўдзельнікі мастацкай самадзейнасці райпа, падатковай інспекцыі, ветэраны. У рамках святочнага канцэрта райкамам грамадскага аб'яднання БПСМ быў праведзены конкурс патрыятычнай песні. Удзельнікі яго атрымалі прызы. А мастацкаму кіраўніку раённага Цэнтра культуры, кіраўніку хора ветэранаў Л. Я. Гіркінай была ўручана Ганаровая грамата, якую калектыў атрымаў за высокамастацкі рэпертуар і актыўны ўдзел у патрыятычным выхаванні моладзі. Райкам грамадскага аб'яднання БПСМ па заслугах ацаніў уклад ветэранаў у агульную справу – выхаванне падрастаючага пакалення.



*Выступае хор ветэранаў вайны і працы.*
*Фота Людмілы СМАЛЯКОВАЙ.*

А на гарадскім стадыёне сабраліся аматары спартыўных спаборніцтваў. Вельмі шмат балельшчыкаў і ўдзельнікаў было каля сталоў, дзе праходзілі паядынкі па шашках і шахматах. Спаборніцтвы праходзілі напружана. Вёў іх галоўны суддзя І. К. Фаенка. Першае месца па шахматах заваяваў студэнт Магілёўскага машынабудаўнічага ўніверсітэта Віталь Гіркін. На другім месцы – вучань СШ № 3 горада Кірыл Фамін і на трэцім – вучаніца СШ № 1 горада Ірына Гіркіна.

Упартая барацьба разгарнулася і сярод шашыстаў. Усе з нецярпеннем чакалі фіналу гульні. Паядынак паміж намеснікам рэдактара раённай газеты В. Ц. Бондаравым і начальнікам гаспадарча-разліковага будаўнічага ўчастка В. А. Гіркіным закончыўся перамогай Віктара Ціханавіча. Другое ганаровае месца дасталася Віктару Аляксеевічу.

А на футбольнай пляцоўцы разгарнулася барацьба за п'едэстал гонару паміж камандай Беларускага цэментнага завода і зборнай камандай раёна. Перамогу атрымала каманда з завода. На другім месцы – зборная раёна.

У спаборніцтвах па валейболу, якія праходзілі ў фізкультурна-аздараўленчым комплексе, перамога дасталася валейбольнай камандзе райвыканкама. Другое месца заняла каманда Беларускага цэментнага завода і на трэцім – зборная каманда школьнікаў горада.

Удзельнікі святочных урачыстасцей мелі магчымасць наведаць цудоўную выставу кветак, якая працавала ў раённым краязнаўчым музеі.

---

## У КАМІТЭЦЕ ДЗЯРЖАЎНАГА КАНТРОЛЮ

## Праверкай устаноўлена

Крычаўскім міжраённым камітэтам дзяржаўнага кантролю Магілёўскай вобласці ў чэрвені праведзена праверка ўпраўлення вытворча-тэхнічнай камплектацыі трэста № 10 "Цэментабуд". Тут устаноўлена завышэнне адпускных цэн на жалезабетонныя вырабы ўласнай вытворчасці, рэалізаваныя ў студзені-красавіку 2000 года.

Камітэтам прынята рашэнне аб спагнанні эканамічных санкцый у суме 1148,4 тысячы рублёў.

Пасадавыя асобы, вінаватыя ў дапушчаных парушэннях, прыцягнуты да адміністрацыйнай адказнасці.

---

## ЖИЛИЩНАЯ ПРОБЛЕМА. НАСКОЛЬКО ОНА ОСТРА?

Обеспечение жильём – одна из важнейших задач социального развития общества. В связи с тяжелым финансовым состоянием активность большинства предприятий и организаций в жилищном строительстве продолжает снижаться. Так, в 1999 году было введено в действие 14592 квадратных метров общей площади жилых домов. Из них только 17,7 процента этой площади введены за счет средств предприятий и организаций. Существенно увеличилась доля строительства жилья за счет средств населения.

Жилищный фонд района на начало текущего года составил 860704 квадратные метра. 70,6 процента жилой площади занимают индивидуальные владельцы. Средняя обеспеченность жильем в расчете на одного человека составила 26,6 квадратных метров общей и 18,2 квадратных метра жилой площади.

Средняя обеспеченность жильем в расчете на одного человека в сельской местности с каждым годом возрастает. С 1995 года она увеличилась на 4,2 и составила 31,2 квадратных метра.

Для увеличения срока службы жилищного фонда необходимо своевременно проводить капитальный ремонт. Капитально отремонтировано за 1999 год 3953 квадратных метров общей площади жилых домов, в 1998 году – 768, в 1995 году – 3543 квадратных метра.

Ветхие и аварийные жилые строения в районе на начало текущего года составляли 12472 квадратных метров, в них проживало 44 человека.

Улучшение жилищных условий остается одной из социальных проблем.

На начало текущего года в городе Костюковичи состояло на учете для получения жилья и улучшения жилищных условий 541 семья, из них по льготной очереди – 53. Кроме того, 145 семей были в числе нуждающихся в получении жилья в сельской местности.

За 1999 год в городе Костюковичи принято на учет 42 семьи, а получили жилую площадь и улучшили жилищные условия — 69. Из общего числа улучшивших свои жилищные условия 2,9 процентов составляют военнослужащие, которые исполняли интернациональный долг.

С момента введения в действие Закона "О приватизации жилья в Республике Беларусь" и до 1 января 2000 года населением района приватизировано 3095 квартир, общей площадью 184,4 тысячи квадратных метров.

По прогнозам, на текущий год предусмотрено ввести в эксплуатацию жилья из всех источников финансирования более пяти тысяч квадратных метров общей площади. За прошедший период года введено около 2 тысяч квадратных метров жилья.

Существенное влияние на положение дел в строительстве жилья оказывает ограниченность финансовых средств. Хотя со стороны руководства района принимаются все необходимые меры для выполнения и решения жилищной проблемы.

**Тамара БОБКОВА,**
**начальник районного отдела статистики.**

---

## НАПЯРЭДАДНІ НОВАЙ КАМПАНІІ

### (З АБЛАСНОЙ АПЕРАТЫЎНАЙ НАРАДЫ)

Як адзначыў на чарговай абласной селектарнай нарадзе старшыня аблвыканкама Міхаіл Дражын, вобласць падышла да завяршэння ўборкі траў. За час "зялёнага жніва" больш высокай забяспечанасці жывёлы кармамі дабіліся Касцюковіцкі, Клімавіцкі, Шклоўскі і Магілёўскі раёны. Зараз трэба ўдзяліць увагу атрыманню другога ўкосу, папоўніць кармавыя запасы.

Паколькі хутка пачнецца вельмі важная сельскагаспадарчая кампанія – уборка збожжавых культур, усё павінна быць зроблена для забеспячэння гатоўнасці да яе. Райвыканкамам прапанавана праз 10 дзён прыняць камбайны і збожжавыя комплексы.

У жывёлагадоўлі галоўнай задачай застаецца атрыманне як мага большай колькасці прадукцыі. Неабходна наладзіць кармленне і догляд жывёлы, дабіцца запланаванага прыросту надояў малака, прываг. Ставіцца мэта ў бліжэйшы перыяд стабілізаваць становішча ў свінагадоўлі.

Выступаючы з інфармацыяй на нарадзе, намеснік старшыні аблвыканкама, старшыня аблсельгасхарчу Пётр Кандратаў прывёў шматлікія паказчыкі кормавытворчасці па вобласці ў цэлым, у разрэзе па раёнах і гаспадарках, назваў добрыя і негатыўныя прыклады. Ён спыніўся на пытаннях захавання тэхналогіі нарыхтоўкі кармоў, іх якасці. У прыватнасці, па вобласці закладзена крыху больш, як 70 працэнтаў сена і сенажу першага класа.

Станоўчая ацэнка дадзена рабоце тых гаспадарак, дзе здолелі назапасіць з першага ўкосу больш за ўсіх кармоў. У іх ліку названы калгас "Дуброва", дзе забяспечанасць склала па 8,5 кармавой адзінкі на ўмоўную галаву жывёлы.

Зноў жа, як і раней, засяроджвалася ўвага на правядзенні догляду прапашных культур. Не ўсе пасевы кукурузы і караняплодаў прапаланы, ачышчаны ад пустазелля.

Што датычыць падрыхтоўкі да жніва, яшчэ чацвёртая частка камбайнаў не гатова. У той жа час не ўсе няспраўныя агрэгаты ахоплены рамонтам. П. А. Кандратаў патрабаваў выправіць становішча і рэкамендаваў правесці сходы з механізатарамі, вызначыць умовы аплаты працы, заданні на сезон. Жніво намечана правесці за 20 дзён.

Далей дакладчык прааналізаваў работу па арганізацыі жывёлагадоўлі. Выяўлены факты безгаспадарчасці. Так, дойныя статкі ў некаторых гаспадарках пасуцца па перастаяўшай і агрубеўшай траве, не пераведзены на атаву. Не робіцца догляд пашы. Не надаецца належнага значэння гадоўлі і захаванасці маладняку жывёлы.

Старшыня аблсельгасхарчу закранаў пытанні правядзення закупу малака ў насельніцтва і своечасовай аплаты, разлікаў з пастаўшчыкамі паліва і г.д.

На нарадзе заслуханы тлумачэнні кіраўнікоў раёнаў. Яны далажылі аб мерах па ўхіленню недахопаў, выяўленых у час папярэдняй праверкі.

Старшыня аблвыканкама Міхаіл Дражын даў указанне правесці на месцах пасяджэнні райвыканкамаў і пакараць вінаватых, вызначыць і прыняць канкрэтныя практычныя меры ў сельскай гаспадарцы.

Пасля завяршэння абласной вытворчай нарады ў райвыканкаме ў аператыўным парадку разгледжаны надзённыя задачы ў аграрным сектары раёна. Заўвагі аб рабоце міжгаспадарчых механізаваных кормаўборачных атрадаў выказаў старшыня раённага выканаўчага камітэта Міхаіл Барысаў.

Намеснік начальніка ўпраўлення сельскай гаспадаркі і харчавання па механізацыі Леанід Ус зрабіў інфармацыю аб ходзе падрыхтоўкі збожжаўборачнай тэхнікі ў раёне. Ён звярнуўся да старшынь калгасаў з прапановай прызначыць механізатараў для рамонту і догляду камбайнаў, збожжавых комплексаў. Неабходна паклапаціцца кіраўнікам аб набыцці акумулятараў, запасных частак, вырашэнні іншых вострых пытанняў.

Варта дадаць, што праблемы кормавытворчасці, падрыхтоўкі да жніва, догляду пасеваў, жывёлагадоўлі і нарыхтоўкі прадукцыі пастаянна знаходзяцца на кантролі ў райвыканкаме. Кожны дзень на працягу гэтага тыдня тут праводзяцца пасяджэнні раённага штаба. Аналізуюцца зводкі, робяцца вывады, намячаюцца новыя арыенціры. Запрошаныя кіраўнікі калгасаў, раённых служб дакладваюць аб праведзенай рабоце. У іх адрас выказваюцца прэтэнзіі, патрабаванні.

У прыватнасці, на адным з апошніх пасяджэнняў разглядаліся пытанні завяршэння першага ўкосу траў, догляду пасеваў, рамонту камбайнаў, ворыва глебы пад азімыя, пашавага ўтрымання жывёлы. М. Р. Барысаў паставіў перад кіруючымі кадрамі канкрэтныя задачы.

---

### ПЕРААДОЛЕЦЬ НАСТУПСТВЫ ЧАРНОБЫЛЯ ЎСІМ СВЕТАМ

Аб'яднаць намаганні сусветнага супольніцтва для вывучэння наступстваў Чарнобыльскай катастрофы і дапамогі Беларусі ў іх ліквідацыі заклікаў прэм'ер-міністр нашай краіны Уладзімір Ярмошын, выступаючы 28 чэрвеня ў Жэнеўскім палацы нацый на пленарным пасяджэнні 24-й спецыяльнай сесіі Генеральнай Асамблеі ААН. Кіраўнік беларускага ўрада, гаворачы аб тым, які ўрон здароўю людзей і эканоміцы краіны нанесла гэта страшная катастрофа, асабліва падкрэсліў, што наступствы Чарнобыля будуць аказваць свой негатыўны ўплыў яшчэ не адно дзесяцігоддзе і нават стагоддзе.

Беларусь, адзначыў далей Уладзімір Ярмошын, адна з першых у Еўропе распрацавала і зацвердзіла на дзяржаўным узроўні стратэгію экалагічна бяспечнага ўстойлівага развіцця. З поўнай адказнасцю выконвае свае абавязацельствы па адпаведных міжнародных пагадненнях і канвенцыях. За апошнія гады ў рэспубліцы скарачаюцца аб'ёмы выкідаў і скідаў рэчываў-забруджвальнікаў у навакольнае асяроддзе. На тэрыторыі краіны няма ні хімічнай, ні ядзернай зброі. Мы добраахвотна адмовіліся ад статусу ядзернай дзяржавы, падкрэсліў прэм'ер-міністр.

(БелТА).

---

### Акцыя – "Чыстае паветра"

У мэтах далейшай актывізацыі работы па зніжэнню забруджвання атмасфернага паветра шкоднымі выкідамі аўтатранспартных сродкаў, папярэджванню эксплуатацыі аўтатранспарту з утрыманнем вокісу вуглярода і дымнасці адпрацаваных газаў рухавікоў, якія перавышаюць устаноўленыя нормы, у раёне з 1 па 30 чэрвеня праводзілася акцыя "Чыстае паветра".

У выніку яе да адміністрацыйнай адказнасці за перавышэнне нормы выкідаў вуглякіслага газу прыцягнуты больш за 100 вадзіцеляў.

Ул. інф.

# Напамінак аб небяспецы

Пройдзе зусім мала часу і на хлебную ніву выедуць камбайны. Чакаюць механізатары гэтай пары, бо менавіта зараз заўважны вынік іх працы. Як убраць без страт ураджай, захаваць яго? Рэцэптаў наконт гэтага нямала. Мне хацелася б папярэдзіць сёння тых, хто будзе заняты ўборкай ураджаю, каб яны былі вельмі асцярожныя пры рабоце ў ахоўнай зоне паветраных электраліній. Варта памятаць, што праязджаючы міма электраліній, ці пад імі, механізатарам трэба знаходзіцца толькі ў кабіне або пад ахоўным казырком.

У час набліжэння навальніцы таксама варта спыніць работу паблізу паветраных электраліній, не праводзіць пад імі рамонтна-прафілактычныя работы на тэхніцы.

Каб захаваць убраны ўраджай ад страт, нельга складзіраваць зерне, сціртаваць салому, сена пад паветранымі электралініямі.

Гэтыя асноўныя правілы нельга забываць. Адказныя за электрабяспеку ў калгасах павінны правесці інструктажы з усімі, хто выязджае ў поле, а таксама будзе займацца перапрацоўкай зерня.

На кожнай высокагабарытнай машыне, якія будуць працаваць у ахоўнай зоне, трэба зрабіць надпіс фарбай: "Пры рабоце ў ахоўнай зоне паветраных ліній не падымайся наверх машыны". Чарговы напамінак аб небяспецы, якую тояць у сабе электраліній, нікому не пашкодзіць. Як кажуць, беражонага і Бог беражэ.

**Галіна ГОМАНАВА,**
**- інспектар раённай інспекцыі энерганагляду.**



*На Беседзі.*
***Фотаэцюд Людмілы СМАЛЯКОВАЙ.***

# Прапіваюць не толькі сумленне...

## БАЦЬКІ І ДЗЕЦІ

Невыкананне бацькоўскіх абавязкаў – адзін з пастаянных пунктаў парадку дня пасяджэння камісіі па справах непаўналетніх райвыканкама. А на гэты раз менавіта гэта пытанне і было асноўным, бо ўсе выкліка
ныя бацькі, дарэчы, паўторна, злосна не выконваюць сваіх абавязкаў. Прычына ж крыецца ў адным – п'янстве. І што дрэнна, у многіх сем'ях п'е не толькі бацька, а і маці, на якой ляжаць асноўныя функцыі выхавання дзяцей і, вядома ж, стварэнне ўмоў для нармальнага жыцця і вучобы.

На жаль, многія жанчыны забыліся пра сваё прызначэнне, прыхвоціліся да спіртнога. Т. Рыбалка і В. Радзюкоў з Нізек маюць пяцёра дзяцей. Яна працуе на малочнатаварнай ферме, там жа і муж. Ёсць дом, гаспадарка, работа. Здавалася б, што яшчэ трэба? Але ж не, кліча "зялёны змій". Запіваюць абодва і нават дамоў не прыходзяць, на рабоце таксама іх няма. Прапіваюць дзіцячую дапамогу, прадукты харчавання.

На камісіі жанчына сказала, што яна ўжо закадзіравалася, гаспадар таксама паедзе хутка кадзіравацца. А ці трэба было даходзіць да гэтага, каб без медыцынскай дапамогі ўжо не выйсці з такога стану?

Пакуль гэта сям'я будзе на кантролі камісіі.

Звычайна на пасяджэнне камісіі выклікаюцца абодва бацькі, але часцей за ўсё з'яўляецца толькі маці. К. Бардоўская з Жабык таксама прыйшла адна, хаця, як сведчыць з дакументаў, злоўжываюць спіртным напіткамі абодва. У сям'і 5 дзяцей, але належнай увагі ім не ўдзяляецца. Рабяты прапускаюць заняткі ў школе, па некаторых прадметах неатэставаны. У доме беспарадак. Такая ж карціна назіраецца і ў Р. Нікіценка з Баронек. Толькі ў Рыты адна дачка, якую яна таксама не можа даглядзець як след. Яшчэ ж зусім маладая жанчына, а ў доме не хоча навесці парадак. Няма пасцельных прыналежнасцей, запасаў прадуктаў. Хаця, як яна сама сказала, ёсць гаспадарка, карова, у прыватнасці, здае малако, за якое ў маі атрымала 8 мільёнаў. Сама працуе даяркай. Толькі ўсё гэта ідзе на набыццё спіртнога. П'е разам з ёй і сястра Алена. На камісію апошняя не з'явілася. Так вось бавяць час маладыя жанчыны, не задумваюцца, што губяць не толькі сябе, а і сваіх дзяцей.

Як кажуць, яблык ад аблынькі далёка не падае. Чалавека фарміруе асяроддзе, у якім ён жыве, і бацькоўскае выхаванне. А калі ў сям'і п'юць бацькі, то па ўсёй верагоднасці і дзіцяці пачне рабіць тое ж самае. І ці будзе яно імкнуцца да лепшага жыцця, калі не бачыла яго?

Так здарылася і з Наташай Бірковай. Калісьці на камісіі не адзін раз разбіралі яе маці за п'янку, даходзіла да пазбаўлення яе бацькоўскіх правоў. І як плакала побач з ёй Наташа, якой і ў сям'і было кепска і маці шкадавала, якая-ніякая ўсё ж маці. Апошняй ужо няма, а на камісіі ўжо сама Наташа. І пытанне стаіць сур'ёзнае – пазбаўленне яе бацькоўскіх правоў. Маленькі сын не можа яшчэ расказаць, як яму несалодка прыходзіцца. Дзіцяці вельмі слабае, часта хварэе, у яго ўжо анемія. Маці ж нідзе не працуе, водзіць кампаніі з такімі, як сама, п'янствуюць у яе кватэры, учыняюць нават бойкі. Іншы раз са сынам у дзіцячы сад прыходзіць у нецвярозым стане.

Якім вырасце яе сын, калі ў час не агарадзіць яго ад такой маці, гадаць не прыходзіцца.

Людміла Азаронак з-за п'янкі страціла ўсё: добрую работу (па прафесіі фармацэўт), кватэру ў Віцебску, дзе да гэтага жылі з мужам. Прыехалі ў Дзямідавічы да яе бацькоў. І зноў працяваюць тую ж справу. Яна нідзе не працуе і не імкнецца. Гаспадаркі ніякай не трымае. А піць за штосьці ж трэба, вось і занялася крадзяжом, бо ўжо з дому нечага прадаваць.

Дзяцей таксама кідае дома галоднымі. А ў доме, як кажуць, не пераступіць ад гразі. Вось да чаго давяла гарэлка!

— Мы хутка паедзем адсюль, — сказала Людміла на камісіі. – Вось муж прыедзе, маўляў, ён домік падшукае ў Віцебскай вобласці. Добра, калі гэта праўда, але ж і там не будзе жыцця дзецям, калі маці не кіне піць.

Няцяжка аступіцца, страціць сваю годнасць, цяжка знайсці ў сабе сілы стаць на правільны шлях. А трэба. Каб не сорамна было глядзець у вочы бацькоў, аднавяскоўцаў і сваіх дзяцей.

Р. Платонава таксама вяла сябе не лепшым чынам калісьці, прыкладвалася да чаркі. Зараз праблемы з сынам, вучнем 9 класа СШ № 1. Быў заўважаны ў нецвярозым стане. Да таго ж, ужо ўмоўна асуджаны.

Дзеці – наша будучае, гаворым мы, дарослыя. Якім яно будзе, залежыць у многім ад нас. Прыглядзьцеся да сябе, бацькі!

**Валянціна ФРАЛЯНКОВА.**

## *Поздравляем!*

*Горячо и сердечно поздравляем весь* ***коллектив работников инспекции государственного налогового комитета по Костюковичскому району*** *с юбилеем – 10-летием со дня образования!*

*Желаем, чтоб здоровье было,*
*Веселье чтоб не обходило.*
*В труде – успехов Вам больших,*
*А в жизни – радостей одних.*
*В кругу семейном – только счастья,*
*Чтоб никаких не знать препятствий.*
*В быту своем и на работе*
*Желаем быть всегда в почете.*

*Пусть в доме будут мир и лад,*
*А это – самый ценный клад!*

***Администрация, профсоюзный комитет.***

Х Х Х

*Горача і сардэчна віншуем з юбілеем дарагую жонку, маці і бабулю* ***ГУТНІКАВУ Розу Іванаўну***

*Жадаем добрага здароўя,*
*даўгалецця і шчасця.*
*Мамочка, любимая, родная,*
*Твоей любовью свято дорожим.*
*Ты нас растила, понимала –*
*За всё тебе спасибо говорим.*
*Живи подольше, старости не зная,*
*Пусть будут сны спокойны и легки,*
*Тебя мы очень любим, дорогая.*
*Желаем счастья, радости, любви!*

***Муж, дзеці, унукі.***

**Костюковичский государственный дорожно-строительный участок** переименовывается ***в республиканское унитарное предприятие "Костюковичский дорожно-строительный участок"*** (РУП Костюковичский ДСУ) и является его правопреемником.

**ЛІЧЫЦЬ НЕСАПРАЎДНЫМ** дыплом аб заканчэнні Мсціслаўскага ПТВ-92, выдадзены на імя **КАНАШЭНКІ Станіслава Аляксеевіча** 30.06.1998 г.

## ПРАДАЕЦЦА

конь, узрост 10 гадоў. Звяртацца ў в. Калодліва, да Самусева Фёдара Сцяпанавіча. Тэл.: 2-59-28. Цана па дамоўленасці.

Х Х Х

карова ў в. Пралетарскае (2-х ацёлаў). Звяртацца да Ермачэнкі Надзеі Анатольеўны. Тэл.: 27-9-80, 27-9-25.

Х Х Х

2-х пакаёвая кватэра ў д. 25 па вул. Ленінская. Цана па дамоўленасці. Звяртацца па тэл.: 2-26-35.

## *Поздравляем!*

*Горячо и сердечно поздравляем с днём рождения дорогую жену, маму, бабушку*
***ГРУЗИНОВУ Нину Степановну***

*Желаем счастья и добра*
*И долгих-долгих лет цветенья.*
*Улыбок, нежности, тепла*
*В твой светлый праздник –*
*День рожденья.*

***Муж, дети, внуки.***

В связи с ликвидацией хозрасчётного участка специальных работ г. Костюковичи претензии кредиторов берёт на себя открытое акционерное общество "Стройкомплекс" г. Минск. Справки по тел.: 52-721.

## НА ПОЭТИЧЕСКОЙ ВОЛНЕ

### *"Тихая" охота*

*Час-два и спать охоту*
*Я сбил. И не грущу.*
*На "тихую" охоту,*
*Я в ближний лес спешу.*

*Иду я мимо сада,*
*Восток, как в сотах мёд.*
*О, как бодрит прохлада,*
*И сколько сил даёт.*

*Я сразу заявляю*
*(похвастать не боюсь).*
*С пустым лукошком, знаю,*
*Домой не возвращусь.*

*Привет, лесное царство,*
*Какая тишь, покой.*
*Вот для души лекарство,*
*Вошел, как в дом родной.*

*Роятся мысли-грёзы*
*Вновь в детство угодил.*
*Лепил листок с березы,*
*В лукошко взял словил.*

*Поднял сучок еловый,*
*Иголок взял с росой.*
*И радостный, веселый,*
*Я поспешил домой.*

***Василий КОТИКОВ.***
***Пос. Тупичино.***

## СНИМУ

2-3-х комнатную квартиру за хорошую оплату с мебелью и телефоном. Предлагать по тел.: 52-1-44.

В связи со сменой собственника имущества **унитарное торговое предприятие "Костюковичская межрайбаза" Могилевского облпотребсоюза** переименовывается в ***унитарное оптово-розничное торговое предприятие "Коопторг Костюковичского райпо"*** и является его правопреемником.

**Аддзел адукацыі райвыканкама і райкам прафсаюза работнікаў адукацыі і навукі выказваюць глыбокае спачуванне загадчыку аддзела адукацыі ШВЕДАВУ Віктару Міхайлавічу з выпадку смерці МАЦІ.**

**Дырэктары школ раёна выказваюць глыбокае спачуванне загадчыку аддзела адукацыі ШВЕДАВУ Віктару Міхайлавічу ў сувязі з напаткаўшым яго горам – смерцю МАЦІ.**

**Райвыканкам і раённы Савет дэпутатаў выказваюць глыбокае спачуванне загадчыку аддзела адукацыі райвыканкама ШВЕДАВУ Віктару Міхайлавічу з выпадку напаткаўшага яго гора – смерці МАЦІ.**

**Калектыў настаўнікаў і тэхработнікаў СШ № 3 выказвае глыбокае спачуванне загадчыку аддзела адукацыі райвыканкама ШВЕДАВУ Віктару Міхайлавічу і завучу школы ШВЕДАВАЙ Тацццяне Васільеўне з выпадку напаткаўшага іх гора – смерці МАЦІ, СВЕКРЫВІ.**

**Калектыў СШ № 1 выказвае глыбокае спачуванне ШВЕДАВУ Віктару Міхайлавічу з выпадку напаткаўшага яго гора – смерці МАЦІ.**

**Калектыў настаўнікаў СШ № 4 выказвае глыбокае спачуванне загадчыку аддзела адукацыі ШВЕДАВУ Віктару Міхайлавічу з выпадку смерці МАЦІ.**

**Адміністрацыя, калектыў раённага Цэнтра дзіцячай творчасці выказваюць глыбокае спачуванне ШВЕДАВЫМ Віктару Міхайлавічу і Тацццяне Васільеўне з выпадку смерці МАЦІ, СВЕКРЫВІ.**

**Калектыў настаўнікаў Прусінскай школы выказвае глыбокае спачуванне загадчыку аддзела адукацыі райвыканкама ШВЕДАВУ Віктару Міхайлавічу з выпадку смерці МАЦІ.**

**Калектыў яслі-сада № 7 "Вясёлка" выказвае глыбокае спачуванне загадчыку аддзела адукацыі райвыканкама ШВЕДАВУ Віктару Міхайлавічу з прычыны напаткаўшага яго гора – смерці МАЦІ.**

**Калектыў Муравільскай СШ выказвае глыбокае спачуванне загадчыку аддзела адукацыі райвыканкама ШВЕДАВУ Віктару Міхайлавічу з выпадку смерці МАЦІ.**

**Праўленне, прафсаюзны камітэт калгаса "Новае жыццё" выказваюць глыбокае спачуванне АМЕЛЬЧАНКАМ Наталлі Уладзіміраўне і Аляксандру Барысавічу, КУЦКО Аляксандру Уладзіміравічу з выпадку смерці МАЦІ, ЦЕШЧЫ.**

**Райвыканкам і раённы Савет дэпутатаў выказваюць глыбокае спачуванне старшыні калгаса "Новае жыццё" АМЕЛЬЧАНКУ Аляксандру Барысавічу з выпадку смерці ЦЕШЧЫ.**

**Калектыў работнікаў гасцініцы выказвае глыбокае спачуванне ЗАХАРАВАЙ Паліне Аляксандраўне з выпадку напаткаўшага яе вялікага гора – смерці СЫНА.**

**Калектыў работнікаў суда Касцюковіцкага раёна выказвае глыбокае спачуванне ЗАХАРАВАЙ Наталлі Дзмітрыеўне з прычыны напаткаўшага яе вялікага гора — смерці МУЖА.**

**Калектыў работнікаў аб'яднання грамадскага харчавання выказвае глыбокае спачуванне АЛЯКСЕЕНКА Людміле Анатольеўне з выпадку напаткаўшага яе вялікага гора -- трагічнай смерці МУЖА.**


**Галоўны рэдактар Мікалай ДЗЯТЛАЎ**

**ГОЛАС КАСЦЮКОЎШЧЫНЫ**

ЗАСНАВАЛЬНІК: КАСЦЮКОВІЦКІ РАЁННЫ ВЫКАНАЎЧЫ КАМІТЭТ

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 213640, г. Касцюковічы, вул. Ленінская, 43
Індэкс газеты 64045

ТЭЛЕФОНЫ: галоўны рэдактар -- 2-11-33; нам.галоўнага рэдактара, адказны сакратар -- 2-16-94; аддзелы: аграпрамысловы і інфармацыі – 2-16-34; пісьмаў і масавай работы, бухгалтэрыя --2-23-55.

Цэнтралізаваны выпуск газеты ажыццяўляе адказны выпускаючы А. ШПАКАВА.
**Газета выходзіць у сераду і суботу.**

Аб'ём газеты -1 друкаваны аркуш
Тыраж 1528 экземпляраў
Друк афсетны
Падпісана ў друк 7. 07. 2000 г. 18.00
Заказ № 52

**Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннямі рэдакцыі.**

**Рэдакцыя пакідае за сабой права не ўступаць у перапіску з чытачамі.**

**Рэгістрацыйны нумар 760 ад 29 сакавіка 1997 года. Газета надрукавана ў Магілёўскай абласной друкарні імя Я.М. Свярдлова, вул. Першамайская, 72.**